№ 119 (1932)
Чацвер, 1 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +20...+22, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +22...+24, сонечна, уначы — +15...+17, дождж; у Гродне ўдзень — +21...+23, сонечна, уначы — +14...+16, дождж; у Віцебску ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +21...+23, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +22...+24, сонечна, уначы — +13...+15, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Грамадзянскі камітэт у абарону Канстытуцыі будзе створаны!

3 чэрвеня 2004 года адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы, якая прыняла рашэнне аб стварэнні аргкамітэта Грамадзянскага камітэта ў абарону Канстытуцыі. У яго склад увайшоў 21 чалавек.

Старшынёй аргкамітэта абраны **ЯРАШУК Аляксандр Ільіч.**

**Вінцук СУШКЕВІЧ.**

## Увечары 1 ліпеня У.Пуцін і Л.Кучма наведаюць Беларусь

Увечары 1 ліпеня Уладзімір Пуцін і Леанід Кучма наведаюць з кароткатэрміновым візітам Беларусь. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службах расійскага і ўкраінскага прэзідэнтаў, кіраўнікі дзяржаў возьмуць удзел у святочных мерапрыемствах, прысвечаных 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Плануецца, што У.Пуцін і Л.Кучма ўскладуць вянкі да мемарыяльных комплексаў "Курган Славы" і "Хатынь" і выступяць з прамовамі. У той жа вечар прэзідэнты Расіі і Украіны адправяцца на радзіму.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Аб'яўлены тэндэр

Міністэрства сувязі Беларусі аб'явіла адкрыты міжнародны тэндэр на атрыманне ліцэнзіі трэцяга аператара мабільнай сувязі стандарта GSM у дыяпазонах 900 і 1800 мГц.

У якасці абавязковай умовы для пераможцы вылучаецца стварэнне камерцыйнай арганізацыі з унітарным прадпрыемствам "Мінская гарадская тэлефонная сетка", пры гэтым апошняе павінна мець не менш за 51 працэнт акцый у статутным фондзе камерцыйнай арганізацыі. Тэрмін дзеяння ліцэнзіі складзе 5 гадоў і паводле заявы ліцэнзіята можа быць працягнуты яшчэ на 5 гадоў.

Прапановы павінны суправаджацца тэндэрнай гарантыяй у памеры 500 тысяч еўра, якая павінна быць сапраўднай на працягу 8 месяцаў пасля заканчэння тэрміну падачы тэндэрных прапаноў.

Тэрмін падачы тэндэрных прапаноў завяршаецца апоўдні 21 верасня 2004 года.

Цяпер ліцэнзіі аператараў мабільнай сувязі ў Беларусі маюць СП "Мабільная лічбавая сувязь" (гандлёвая марка "Velcom") і СП ТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы".

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## У Оршы затрыманы двое падлеткаў, якія падазраюцца ў здзяйсненні зверскіх забойстваў

На пачатку чэрвеня маладыя людзі 14 і 17 гадоў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пранiклі ў дом 90-гадовай жанчыны. Яны збілі пенсіянерку, патрабуючы ў яе грошы, а затым адзін з іх згвалтаваў сваю ахвяру. Пасля гэтага злачынцы нанеслі жанчыне некалькі смяротных удараў нажом у шыю і выкралі з дому 50 тысяч рублёў.

На наступны дзень у вёсцы Каробішча Аршанскага раёна маладыя людзі пранiклі ў дом 79-гадовага адзінокага пенсіянера, інваліда I групы, вязня фашысцкіх канцлагераў. У яго таксама сталі патрабаваць грошы, збіваць, спрабуючы задушыць. З дому падазроныя забралі электронны гадзіннік і шарыкавую ручку. Праз суткі стары быў знойдзены памерлым.

Цяпер па гэтых фактах вядзецца следства.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Вось дык паляванне!

Аб'ектам увагі аматараў лёгкай спажывы на Случчыне ўсё часцей становяцца лініі электраперадачы і... выпасы для кароў. Нядаўна каля вёсак Баравая і Ніва была абрэзана лінія электракабеля даўжынёй 1760 метраў і вагой 230 кілаграмаў. Супрацоўнікам міліцыі ўдалося выявіць "паляўнічага" на каляровы метал: ім аказаўся нідзе не працуючы тутэйшы жыхар Т. Сума прычыненай ім шкоды ацэнена болей чым у 730 тысяч рублёў. Па факце злачынства ўзбуджана крымінальная справа.

**Алесь ВОЛАТ.**

*Слуцк.*

**СЛЫШАЛИ?**

## Урал Латыпов оставит пост главы Администрации президента Республики Беларусь

Похоже, в самое ближайшее время пост главы Администрации президента Республики Беларусь оставит Урал Рамдракович Латыпов. Источник, вызывающий доверие, сообщил "Народной воле", что этот вопрос практически уже решен. Выходит, не зря независимая пресса муссировала эту тему на протяжении нескольких месяцев.

Сегодня не время комментировать самые разные версии, объясняющие причины ухода не просто главы Администрации, а человека, играющего особую, не всем известную роль в окружении А.Лукашенко. "Народная воля" вернется к этой теме по мере раскручивания ситуации.

### *Досье «Народной воли»*

**ЛАТЫПОВ Урал Рамдракович** *родился 28 февраля 1951 года в деревне Катаево Бакалинского района (Башкортостан, Россия). Окончил Казанский университет (1973), Высшие курсы КГБ СССР в Минске (1974). Проходил службу в территориальных органах КГБ СССР на должностях оперативного и руководящего состава (с 1974). Начальник кафедры специальных дисциплин, заместитель начальника Института национальной безопасности Республики Беларусь по научной работе (с 1989).*

*Помощник президента Республики Беларусь по внешней политике (с 1994). Руководитель Секретариата — первый помощник президента Республики Беларусь (1995—1996). С декабря 1998-го министр иностранных дел — заместитель премьер-министра Республики Беларусь.*

*Доктор юридических наук (1993), профессор (1994). Специалист по вопросам международного терроризма. Один из учредителей негосударственного исследовательского Института безопасности и развития. Имеет дипломатический ранг Чрезвычайного и Полномочного Посла. Полковник КГБ в запасе, уволился в запас после августовского путча 1991 года. По неофициальным сведениям, в апреле 1993-го получил приглашение от министра госбезопасности РФ В.Баранникова вернуться на службу в Россию, но приглашения не принял. Женат, двое детей.*

## Працяг будзе

***Завяршыўся візіт у Беларусь спецыяльнай камісіі Еўрапейскага Саюза па расследаванні фактаў парушэння правоў беларускіх прафсаюзаў***

Рашэнне аб яе стварэнні было прынята Еўрапейскай камісіяй у канцы мінулага года на падставе афіцыйнага звароту да кіраўніцтва ЕС Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП). МКСП, у прыватнасці, прасіла еўрапейскага камісара па гандлі Паскаля Ламі разгледзець пытанне аб пазбаўленні Рэспублікі Беларусь гандлёвых прэферэнцый у сувязі з тым, што беларускія ўлады працягваюць груба парушаць правы прафсаюзаў, не рэагуючы на рэкамендацыі Міжнароднай арганізацыі працы.

Падрабязнасці перамоў, якія праводзілі ў Мінску эксперты ЕС з 25 чэрвеня, невядомыя — праца камісіі вялася ў закрытым рэжыме, сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ і шырокай грамадскасцю не былі прадугледжаны.

Расследаванне Еўрасаюза прадоўжыцца ў сярэдзіне ліпеня ў штаб-кватэры ЕС у Брусэлі, куды адправіцца група сведак з Беларусі. Вынікам працы камісіі стане даклад, на падставе якога Еўрасаюз будзе прымаць рашэнне наконт гандлёвых прэферэнцый у дачыненні да Беларусі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Ушанаваць памяць вязняў гета

Ушанаваць памяць больш як 9 тысяч вязняў гета, знішчаных фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, прыбыла ўчора ў Лунінец дэлегацыя трох ізраільскіх грамадскіх арганізацый, у склад якой уваходзяць 39 чалавек з некалькіх пакаленняў яўрэйскіх сем'яў. Разам з бацькамі, нараджэнцамі гэтага рэгіёну, прыехалі іх дзеці і ўнукі.

Узначальвае дэлегацыю ўдзельнік ВАВ Копель Калпаніцкі, які ўжо неаднойчы наведваўся ў Брэсцкую вобласць з групай з Ізраіля і шмат зрабіў для ўвекавечання памяці ахвяр Халакоста, за што некалькі гадоў таму быў удастоены звання ганаровага грамадзяніна Лунінецкага раёна.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## У Мінск прыбыла першая група расійскіх ветэранаў

Першая група расійскіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, якія бралі ўдзел у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прыбыла раніцай 30 чэрвеня з Масквы ў Мінск.

Як паведаміла прэс-служба беларускага пасольства ў Маскве, усяго на юбілейныя мерапрыемствы з Расіі ў Беларусь запрошаны каля 100 удзельнікаў вызвалення краіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**1944: ЭТО БЫЛО**



*Представитель Ставки ВГК Маршал Советского Союза А.М. Василевский и командующий войсками 3-го Белорусского фронта И.Д. Черняховский допрашивают пленного командира 53-го армейского корпуса генерала пехоты Гольвинцера и командира 206-й пехотной дивизии генерал-лейтенанта Зитгера. Место съемки — Витебск. Автор снимка не установлен.*

**РАКУРС**

## Когда перестанем пугать Европу?

**Александр КЛАСКОВСКИЙ, главный редактор "Белорусских новостей"**

В редакции солидной венской газеты "Штандарт" нам честно сказали, что о Беларуси пишут мало. Вспомнили: был всплеск интереса, когда президент Лукашенко пригрозил, что может открыть коридор на Запад для нелегальных мигрантов. А так, мол, ваша страна для австрийцев — черная дыра.

Что взять с сытых бюргеров! Их, видно, только нелегалами и проймешь. А вот писать о преимуществах белорусской экономической модели или невиданного в мире союзного строительства "Штандарт" почему-то не хочет.

Если же серьезно, то Австрия более чем довольна собственной моделью. Страна процветает экономически и, благодаря нейтральному статусу, надежно обезопасила себя политически.

Разве что магазины закрываются у них вопиюще рано — в основном в семь вечера. Славянскому менталитету это дико. У нас после девяти только начинают бегать за добавкой.

Журналисты "Штандарта" говорят, что и в местной прессе периодически вспыхивает дискуссия о режиме работы торговых точек. Но церковь и профсоюзы каждый раз отвоевывают статус-кво. Поэтому многие венцы отовариваются в Братиславе, где точки открыты круглосуточно.

А в принципе австрийцам и так хорошо живется. С их зарплатами и в ресторане посидеть можно.

Кафе и прочих таких заведений в Вене куда ни глянь. И что характерно: ни тебе пьяных, ни хулиганья. По австрийской столице туристы безнаказанно бродят и ночью.

При этом встретить стражей правопорядка — тоже большая редкость. Самодисциплина. Культура. Нет озлобленности на весь белый свет, которая у наших соотечественников выливается в тупую агрессию.

Ну скажите, вот постояли бы у нас на улице велосипеды, пусть себе и прихваченные замком к специальной "коновязи"? В Вене такие велостоянки повсюду, равно как и велодорожки. У нас наверняка если бы не угнали, то хоть колесо отвинтили. Или просто спицы выломали от злости.

Австриец живет в атмосфере психологического комфорта. В парках тут можно валяться на траве или гонять мяч, и никто тебя не потащит в участок. Тут можно идти по оживленной улице, читая газету или разглядывая план города, — и никто не заденет плечом. Тут автобус смиренно ползет по узкой улочке за ленивым конным экипажем (коронка для туристов!), и шофер не высовывается в окно с непарламентскими выражениями в адрес "водителя кобылы". Кажется, что все довольны жизнью.

Конечно, на самом деле в любом обществе — свои проблемы. Однако здесь, в Вене, по крайней мере наглядно видишь, что такое *гуманитарное измерение безопасности,* или знаменитая *"третья корзина ОБСЕ"*. Та самая, о наполнении которой дискутируют в здешней резиденции Хофбург на форумах этой организации. Корзина, к которой, с точки зрения официального Минска, ОБСЕ питает излишнее пристрастие. Эту тематику, по мнению белорусских дипломатов, Запад часто использует сугубо для того, чтобы лишний раз "построить" государства, которые ему не приглянулись.

Действительно, в третьей корзине на долю Беларуси выпадают сплошные черные шары! Их от души набросали за непрозрачность выборов, давление на независимые издания, "зачистку" третьего сектора...

Вот и мне в Вене, в бюро представителя ОБСЕ по свободе СМИ, сразу вручили свеженькое, с пылу с жару, заявление по поводу высылки из Беларуси журналиста Михаила Подоляка.

По словам **Александра Иванько,** старшего советника названного бюро, представитель ОБСЕ по свободе СМИ Миклош Харасти в данном случае просто не мог промолчать. *"Получив по своему запросу пресс-релиз белорусского КГБ, —* говорит Александр Иванько, — *мы увидели уже подзабытый образчик формулировок советского времени. Типа того, что журналист "тенденциозно освещает социально-политическую обстановку в Республике Беларусь". Мы просто не могли не отреагировать".*

В принципе, конечно, профессионалы из венского офиса ОБСЕ привыкли к разным политическим диковинкам. А вот обыкновенным австрийцам — сужу по собственным беседам — многие белорусские реалии кажутся просто запредельными.

У них государство служит личности (в смысле — не одной, а всем сразу!) и старается быть незаметным. У нас государство нависает над человеком. Заставляет бояться. И вместе с тем — слезно благодарить больших начальников за то, что эти слуги народа обязаны делать по определению. В то же время власти всячески убеждают соотечественников, что главный источник дискомфорта — происки Запада. Белорусов пугают коварным монстром НАТО и убеждают, что никто в Европе нас не ждет.

С такой вот белорусской моделью — еще бы!

Высшее руководство, похоже, отдает себе в этом отчет. Но менять модель, чтобы сблизиться с Западом, даже при нынешних непростых отношениях с Россией — боязно.

Выступая на днях в Бресте, Александр Лукашенко дал понять, что "дикого крена", о вероятности которого периодически заговаривают политологи, при его власти не будет. *"Заявления некоторых политиков о том, что Беларусь разворачивается в сторону Запада, безосновательны",* — заявил официальный лидер.

С другой стороны, в Минске явно не хотят сжигать все мосты в отношениях с Европой.

Как отметил в интервью *"Белорусским новостям"* политолог **Андрей Федоров,** отечественным руководителям тоже ведь хочется "людьми зваться". В частности, именно трибуна ОБСЕ дает возможность не чувствовать себя париями, а вести с Западом полноправный диалог.

*"Это единственная европейская организация, в которой Беларусь полноценно участвует, причем с 1992 года,* — отметил, беседуя с нами в Вене, заместитель главы постоянной делегации Беларуси в ОБСЕ **Денис Сидоренко.** — *И, как бы ни было порой тяжело, мы каждый четверг на заседаниях Постоянного совета ведем прямой диалог, в том числе и со Штатами, и с Евросоюзом".*

По мнению Андрея Федорова, при всех коллизиях официальный Минск вряд ли решится, как предлагали отдельные парламентарии антизападного склада, раз и навсегда хлопнуть дверью ОБСЕ. Зачем, мол, нам этот реликт холодной войны!

**"Дело в том,** — говорит политолог, — *что рычагов давления на белорусское руководство у структур ОБСЕ фактически нет и сегодня. А всякие заявления и резолюции — это неприятно, но не более того".*

Ну а чтобы поменьше "цеплялись", белорусской дипломатии поручено под лозунгами реформы ОБСЕ всячески уводить организацию от вопросов гуманитарного измерения, от той самой третьей корзины.

В некоторых минских кабинетах, кажется, живет надежда, что, выпав из поля зрения назойливых борцов за демократию и права человека, можно тихо оставаться черной дырой в центре Старого континента. Короче, пусть *"они"* не лезут.

А народ? Народ безмолвствует.

Неужели действительно наша свобода больше нужна *"им"*, чем нам самим?

*Вена—Минск.*

# Чарнобыльскія міфы

Прайшло 18 год пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Яна з'явілася самай значнай тэхнагеннай аварыяй у гісторыі чалавецтва. Па сутнасці, гэта сапраўдная катастрофа, якая закранула многія краіны свету.

Пад якім вуглом падаецца ў Беларусі чарнобыльская бяда? Улады, асабіста А.Лукашэнка днём і ноччу дбаюць пра тых, хто вымушаны жыць у забруджаных раёнах, а вось апазіцыя нічога не зрабіла і не робіць для мінімізацыі наступстваў катастрофы. Але ж самы тупы абывацель разумее той факт, што апазіцыя ні ў адной краіне не можа нічога зрабіць для народа, пакуль яна не пры ўладзе. Дык за што крытыкаваць апазіцыю, калі яна не мае ніякіх адносін да ўлады, а гэта значыць, што яна не можа ніяк уплываць на прыняцце рашэнняў і іх ажыццяўленне ў любой сферы. Аднак крыўдзіцца з гэтай нагоды на нейкіх пракопавых, леднікаў, яфімавых, што з пенай на губах даводзяць, што апазіцыя нічога не зрабіла для вырашэння чарнобыльскіх праблем, не прыходзіцца. Крыўдзіцца на іх — гэта тое самае, што крыўдзіцца на сабаку, які навязаны на ланцугу і брэша на ўсіх, хто праходзіць міма. У сабакі ж такая служба: брахаць на ўсіх тых, на каго паказаў гаспадар.

Разам з тым нельга не ўлічваць, што ганебныя выпады супраць апазіцыі наносяць вялікую шкоду. Хлусня халуёў рознай масці збівае з толку многіх людзей. Губляецца праўда наконт таго, што дэмакратычная апазіцыя мае бясспрэчныя заслугі перад беларускім народам ў справе аказання рэальнай дапамогі насельніцтву Беларусі, якое пацярпела ад аварыі на ЧАЭС.




Сёння добра вядома, што Беларусь пацярпела не ад самой аварыі, якая адбылася ў ноч з 25 на 26 красавіка 1986 года, а ад дзеянняў кіраўніцтва былога СССР, якое на пачатку гэтай трагедыі хацела схаваць ад міжнароднай супольнасці нават сам факт яе ўзнікнення. І па гэтай прычыне ў першыя дні і тыдні пасля выбуху рэактара Чарнобыльскай атамнай станцыі наогул не было зроблена нічога дзеля таго, каб абараніць насельніцтва ад уздзеяння радыяцыі. Больш таго, радыеактыўныя воблакі, якія ішлі праз Беларусь у паўночна-заходнім накірунку ад Чарнобыльскай атамнай станцыі, былі проста асаджаны на тэрыторыі Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Пазней, калі радыеактыўныя воблакі павярнулі ў бок Масквы, яны былі асаджаны над Магілёўскай вобласцю. Аб гэтым, дарэчы, яшчэ ў 1994 годзе расказаў у прэсе ваенны лётчык, эскадрылля якога і займалася гэтай дзейнасцю.

Палітыка замоўчвання памераў аварыі на ЧАЭС і яе катастрафічных наступстваў працягвалася практычна аж да распаду СССР. Восенню 1988 года спецыялісты Міністэрства аховы здароўя СССР распрацавалі спецыяльную канцэпцыю, якая павінна была "адмыць" кіраўніцтва СССР за тое, што яно, па сутнасці, праводзіла палітыку радыяцыйнага генацыду супраць народаў Беларусі і Украіны, а таксама насельніцтва шэрагу абласцей РСФСР. Была прыдумана так званая "35-бэрная канцэпцыя". Слова "бэр" азначае адзінку вымярэння дозы апраменьвання. Спецыялісты больш ахвотна выкарыстоўваюць адзінку мілізіверт, ці скарочана мЗв. Гэтыя адзінкі звязаны паміж сабой наступным чынам: 1 бэр роўны 10 мілізівертам, так што можна "35-бэрную канцэпцыю" называць "350-мЗв канцэпцыяй". Сэнс гэтай канцэпцыі грунтаваўся на наступных палажэннях:

— доза апраменьвання чалавека, роўная 35 бэрам (350 мЗв), не аказвае ніякага шкоднага ўздзеяння на здароўе, і па гэтай прычыне не патрабуецца ніякіх мер радыяцыйнай абароны ў тых населеных пунктах, у якіх насельніцтва не атрымае дозу большую, чым 35 бэраў;

— дозу апраменьвання ў 35 бэраў могуць атрымаць жыхары толькі невялікай колькасці населеных пунктаў Беларусі, Украіны і Расіі, для якіх можна праводзіць некаторыя абмежаваныя меры радыяцыйнай абароны.

Як вядома, гэтая канцэпцыя была адрынута. Заслуга ў гэтым беларускай дэмакратычнай апазіцыі немалая. І вельмі шкада, што сёння знаходзяцца такія пачвары, якія спрабуюць унушыць насельніцтву Беларусі, што апазіцыя наогул не мае ніякіх заслуг перад народам у справе мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі.

Ды і што казаць, нахабству ідэолагаў рэжыму няма ніякіх межаў. Памятаецца адна перадача па АНТ. З вялікім пафасам расказвалася аб тым, як жыхары вёскі Радастаў дамагліся таго, што ўлады афіцыйна прызналі: яны пражываюць на тэрыторыі, не забруджанай чарнобыльскімі радыенуклідамі. Запомніўся мне і задор каментатаркі, якая апавядала аб тым, як мужна на працягу 18 год змагаліся жыхары вёскі Радастаў, каб іх вёску прызналі непацярпелай, і аб тым, якія зараз для гэтых жыхароў узнікаюць вялікія і слаўныя перспектывы. Паказалі раданага старшыню сельсавета, які з гонарам гаварыў пра гэтую перамогу. Затым слова далі жыхарцы вёскі Радастаў. Яна расказала, як у дзень аварыі яна шукала карову. У гэтых пошуках прыйшлося ёй хадзіць па лужынах. Вада ў іх мела незвычайны колер. Яна была жоўтая. Раней гэта жанчына ніколі ў сваім жыцці не бачыла такой вады і такіх лужынаў. Па яе словах, праз нейкі кароткі час у яе пачалі моцна балець ногі. Яны баляць і зараз.

Што ж адбылося з гэтай жанчынай? Чаму ў яе забалелі ногі пасля таго, як яна пахадзіла па лужынах з незвычайнай вадой? Для навукі гэтыя пытанні не ўяўляюць складанасці. Жанчына атрымала радыяцыйныя апёкі і пашкоджанне сасудзістай сістэмы ног. А гэта сведчыць аб тым, што ў вёсцы Радастаў выпала вялікая колькасць радыенуклідаў. Так што радавацца жыхарам гэтай вёскі, можа, і зарана.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

## VIP-адпачынак у Ірландыі

Яшчэ 150 дзяцей з найбольш пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС трох раёнаў Брэстчыны — Столінскага, Пінскага і Лунінецкага — накіраваліся на аздараўленне ў Ірландыю. Першая група са 100 дзяцей з гэтых жа раёнаў ужо адправілася ў гэтую краіну самалётам на два дні раней.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

ПУЛЬС

## Вось вам прадоўжаны мандат!

*Віза і дыпламатычная акрэдытацыя кіраўніка офіса АБСЕ ў Мінску Эберхарда Хайкена прадоўжаны да канца 2004 года, паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэй Савіных.*

Такім чынам, кіраўнік місіі АБСЕ зможа працаваць у Беларусі да заканчэння мандата офіса — 1 студзеня 2005 года.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Лячу на крылах я ў Гановер...

*Нацыянальная авіякампанія "Белавія" пачынае выкананне палётаў у адміністрацыйны цэнтр нямецкай зямлі Ніжняя Саксонія — Гановер.*

Гэта трэці прамы рэйс з горада Мінска ў Германію на карце маршрутаў беларускага перавозчыка.

"Белавія" выконвае рэйсы Мінск—Гановер—Мінск два разы ў тыдзень на самалёце Ту-154. Як паведамляе авіякампанія, з аэрапорта Гановера праз Нацыянальны аэрапорт "Мінск" будзе ажыццяўляцца дастаўка пасажыраў рэгулярнымі рэйсамі "Белавія" ў гарады Казахстана — Астану, Кустанай, Паўладар і Усць-Каменагорск.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Кансервы, рыс, віно і цукар...

*Супрацоўнікі Брэсцкага гарадскога аддзялення Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа і прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Морыс" праводзяць дабрачынную акцыю па аказанні дапамогі малазабяспечаным ветэранам Вялікай Айчыннай вайны і сем'ям загінуўшых воінаў.*

Закуплена 550 прадуктовых набораў, у якія ўваходзяць мясныя, рыбныя кансервы і кансервы з гародніны, рыс, макаронныя вырабы, мука, алей, цукар, пячэнне, шакалад і пляшка віна.

Напярэдадні 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў гэтыя прадуктовыя наборы дастаўляюцца на кватэры і ў дамы ветэранаў. Развозіць іх па патрэбных адрасах дапамагаюць актывісты розных грамадскіх арганізацый горада.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## МТС чакае мільённага абанента

*"Зараз наша галоўная мэта — стаць лідэрам на беларускім рынку сотавай сувязі па колькасці абанентаў, якасці сувязі і сэрвісных магчымасцях. У гэтым годзе мы плануем падключыць да сеткі МТС мільённага абанента", — такую заяву зрабіў генеральны дырэктар сумеснага беларуска-расійскага ТАА "Мабільныя ТэлеСістэмы" Андрэй Румянцаў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай двухгоддзю працы кампаніі ў Беларусі.*

Паводле яго слоў, цяпер беларуская сетка МТС налічвае каля 600 базавых станцый. Сеткай МТС пакрыты ўсе найбуйнейшыя населеныя пункты краіны, а таксама асноўныя аўтамагістралі: Масква — Брэст, Мінск — Гомель, Мінск — Вільнюс, Кіеў — Гродна. Усталяваны апошнія базавыя станцыі ўздоўж аўтатрасы Санкт-Пецярбург — Адэса.

У планах МТС на наступны год — дадаткова ўсталяваць у Беларусі каля сотні базавых станцый, а таксама два новыя камутатары ў Брэсце і Віцебску.

МТС у Беларусі абслугоўвае больш за 740 тысяч абанентаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Станьце пераможцам марафонскага бегу — і атрымайце мільён

*Па адным мільёне рублёў атрымаюць пераможца-мужчына і пераможца-жанчына X Мінскага міжнароднага марафону, які пройдзе 3 ліпеня па маршруце "Плошча Перамогі — Курган Славы — алімпійскі спарткомплекс на вул. Каліноўскага".*

У праграме спаборніцтваў — забегі на 1,6 ("алімпійская міля", 4,2 (міні-марафон), 10 кіламетраў і 42 кіламетры 195 метраў.

Упершыню адбудзецца забег на марафонскую дыстанцыю для аматараў бегу на ролікавых каньках.

Усе ўдзельнікі марафону атрымаюць прызы і памятныя медалі. Падарункі чакаюць пераможцаў забегаў ва ўзроставых групах, а таксама ўсіх ветэранаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## «Пагарэў» загадчык інтэрната

*Адразу некалькі крымінальных спраў за злачынствы ў эканамічнай сферы распачаты ў Брэсцкай вобласці.*

Як паведаміў супрацоўнік прэс-службы УУС аблвыканкама Арцём Палонскі, крымінальная справа па абвінавачанні ў хабарніцтве распачата ў дачыненні да загадчыка інтэрната камунальнага унітарнага вытворчага прадпрыемства "Брэсцкая кацельная гаспадарка". Супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй па Брэсцкай вобласці ўстанавілі, што загадчык атрымаў ад непрацуючага жыхара абласнога цэнтра хабар памерам 450 долараў за засяленне ў інтэрнат энергетыкаў сваёй сяброўкі — фармоўшчыцы замежнага прадпрыемства "Інка-Фуд". У дачыненні да апошняга таксама распачата крымінальная справа — за падбухторванне да хабарніцтва.

У той жа дзень распачата крымінальная справа супраць бухгалтара Столінскага хлебазавода. Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Столінскага РАУС устанавілі, што са студзеня 2001 года па кастрычнік 2004 года бухгалтар уносіў фіктыўныя звесткі ў ведамасці на выплату авансаў і заробку работнікам прадпрыемства. У выніку хлебазаводу нанесены ўрон на 14 мільёнаў 720 тысяч рублёў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

РАКУРС

# Чарнобыльскія міфы

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*



Той каментарый АНТ страшэнна здзівіў мяне. Але яшчэ больш здзівіў мяне Юрый Шынкар, што звычайна выступае ў вячэрніх праграмах АНТ са спецыяльнай рускамоўнай перадачай "Особое мнение". Аднойчы я ад яго пачуў: Беларусь штогод затрачвае 20 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту на вырашэнне чарнобыльскіх праблем. Ці ж гэта так? Затраты дзяржаўнага бюджэту на мінімізацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы ў апошнія гады складаюць толькі каля 6 працэнтаў, а сярэдняя велічыня іх за перыяд 1990—2000 гады склала толькі 10 працэнтаў. У правільнасці гэтых лічбаў лёгка пераканацца, узяўшы на хвіліну Нацыянальны даклад Беларусі аб чарнобыльскіх наступствах і мерах па іх пераадоленні за 2001 год.

З вуснаў Шынкара ў той вечар зляцела і такое сцвярджэнне. Маўляў, чаго хвалявацца: захворваемасць на рак шчытападобнай залозы ўпала ў некалькі разоў. Варта глянуць у даведнікі Беларускага канцэр-рэгістра, каб пераканацца, што захворваемасць насельніцтва Беларусі на рак шчытападобнай залозы беспярапынна ўзрастала па крайняй меры да 2003 года і ў 2002 годзе была ў 5 разоў большай, чым у 1986 годзе!

Адкуль таварыш Шынкар узяў дадзеныя, якія поўнасцю абвяргаюць лічбы Міністэрства аховы здароўя? Хто яму расказаў аб тым, што смяротнасць асоб, захварэўшых на гэты тып раку, у працэнтных адносінах у 10 разоў меншая, чым у іншых краінах свету. Таму нібыта людзі з ракам шчытападобнай залозы з іншых краін свету хутка будуць прыязджаць на лячэнне ў Беларусь, што дасць вялікія прыбыткі беларускай медыцыне. Гэтае сцвярджэнне поўнасцю абсурднае, і можна толькі дзівіцца, што яно распаўсюджваецца з дапамогай дзяржаўнага тэлебачання, якое ўтрымліваецца за кошт грошай падаткаплацельшчыкаў.

Згодна з дадзенымі даведніка Беларускага канцэр-рэгістра за 2003 год, смяротнасць на рак шчытападобнай залозы ў Беларусі склала 1 выпадак на 100 тысяч чалавек пры захворваемасці ў 10,2 выпадку на 100 тысяч чалавек. Адгэтуль вынікае, што смяротнасць насельніцтва Беларусі ў 10 разоў меншая, чым захворваемасць. Гэта азначае, што ў 2002 годзе з-за раку шчытападобнай залозы ў Беларусі памірала 10 працэнтаў захварэўшых асоб. Дык падобныя суадносіны паміж смяротнасцю і захворваемасцю на рак шчытападобнай залозы ў так званых капіталістычных краінах былі дасягнуты яшчэ ў семідзесятых гадах. Такім чынам, беларуская медыцына ў лячэнні гэтага віду раку пакуль выйшла толькі на рубяжы семідзесятых гадоў і ніхто да нас не паедзе на лячэнне, таму што развітыя краіны свету намнога пераўзыходзяць Беларусь у лячэнні і раку шчытападобнай залозы, і іншых ракавых захворванняў.

Удзячныя людзі кажуць: на руку таго, хто яе працягвае, не плююць. На жаль, гэтую народную мудрасць лукашэнкаўскія прапагандысты ігнаруюць. Да такой высновы я прыйшоў, калі падчас чарговай гадавіны чарнобыльскай катастрофы глядзеў ток-шоу па тым жа канале АНТ. Пачалася гульня: замежная дапамога склала, можа, 1 мільён долараў, можа, два, а можа, больш. У рэшце рэшт прысутныя пагадзіліся, што ўся замежная дапамога Беларусі склала толькі каля 1 працэнта ад таго, што затраціла сама краіна.

Зразумела, што калі ўлічыць такую мізэрную дапамогу з-за мяжы, то адразу ўзнікае пытанне: а чаму нам ніхто не дапамагае? І вось удзельнікі ток-шоу кінуліся ў пошук магчымых прычын адсутнасці жадання іншых краін свету дапамагчы Беларусі вырашыць яе чарнобыльскія праблемы.

Ад усіх гэтых разважанняў было проста млосна. Справа ў тым, што на сродкі іншых краін у Беларусі быў рэалізаваны шэраг важнейшых медыцынскіх праектаў, скіраваных на пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Назаву толькі некаторыя. У 1991—1996 гадах у Беларусі, Украіне і ў Расіі быў рэалізаваны праект па паляпшэнні дыягностыкі і лячэння раку шчытападобнай залозы ў насельніцтва, якое пацярпела ад аварыі на ЧАЭС. Агульныя затраты на рэалізацыю гэтага праекта склалі 30 мільёнаў долараў ЗША. Гэта сродкі дабрачыннага японскага фонду Сасакава. Як мінімум трэцяя частка гэтых затрат, альбо 10 мільёнаў долараў, пайшлі на дыягностыку і лячэнне раку шчытападобнай залозы ў Беларусі.

З пачатку 90-х год вялікую дапамогу аказвае Беларусі ў вырашэнні гэтай складанай праблемы Інстытут радыяцыйнай медыцыны імя Ота Хуга з Мюнхена (Германія). З яго дапамогай і з дапамогай гуманітарных фондаў Нямеччыны нашай краіне была аказана матэрыяльная падтрымка ў 13 мільёнаў еўра. Арганізатарам дабрачыннасці з'яўляецца прафесар Мюнхенскага універсітэта Эдмунд Ленгфельдэр.

Была і іншая важная дапамога. На працягу некалькіх год у Цэнтры ракавых захворванняў шчытападобнай залозы працаваў выдатны спецыяліст-хірург з Японіі, прафесар Сугеноя. Ён рабіў аперацыі хворым дзецям. Акрамя таго, трэба сказаць, што ўсе дзеці, якім была зроблена аперацыя і якія мелі метастазы, праходзілі далейшае лячэнне ў лепшых медыцынскіх цэнтрах Германіі. І толькі дзякуючы гэтай міжнароднай дапамозе ў Беларусі дасягнуты такі ўзровень лячэння раку шчытападобнай залозы, які параўнальны з узроўнем высокаразвітых краінаў свету. Раней ён быў значна ніжэйшы. Напрыклад, напрыканцы 80-х гадоў смяротнасць ад раку шчытападобнай залозы ў нашай краіне складала каля 35 працэнтаў ад ліку захварэўшых. Не выклікае ніякага сумнення тое, што сённяшнія нашы поспехі ў лячэнні раку шчытападобнай залозы сталі магчымымі толькі дзякуючы замежнай дапамозе.

Маюцца і іншыя выдатныя прыклады дапамогі Беларусі з боку заходніх дзяржаў. У сярэдзіне 90-х гадоў непадалёк ад пасёлка Бараўляны ў асноўным за кошт Германіі, Швейцарыі і Аўстрыі пабудаваны дзіцячы анкалагічны цэнтр. Гэта затраты ў многія дзесяткі мільёнаў долараў. Германія і іншыя краіны аказалі таксама вялікую дапамогу ў абсталяванні гэтага цэнтра медыцынскім абсталяваннем, у забеспячэнні лекамі, у падрыхтоўцы спецыялістаў у дзіцячай анкалогіі. І ў выніку Беларусь мае выключныя поспехі ў лячэнні вострых лейкозаў у дзяцей. Калі да стварэння гэтага цэнтра на Беларусі памірала 85 працэнтаў дзяцей, што захварэлі на вострыя лейкозы, то цяпер такіх выпадкаў менш як 15 працэнтаў.

А вось яшчэ адзін цудоўны прыклад. У першай палове 90-х гадоў з дапамогай Германіі была праведзена рэканструкцыя хірургічнага і некаторых іншых аддзяленняў Мінскага цэнтра дзіцячай хірургіі. Вынікам стала рэзкае падзенне смяротнасці дзяцей, якія мелі хірургічныя праблемы. Сёння можна сцвярджаць, што ў выніку рэканструкцыі і дапамогі з хірургічным інструментам і медыцынскім абсталяваннем выратаваны многія сотні дзяцей, якія раней не мелі ніякіх шанцаў на паратунак. Кошт рэканструкцыі склаў 17 мільёнаў марак ФРГ. Гэтыя грошы былі выдзелены ўрадам Зямлі Паўночны-Рэйн-Вестфалія. Вялікую ролю ў арганізацыі праекта адыгралі Юта Шнор, жонка першага намесніка старшыні ўрада і міністра ўнутраных спраў пана Шнора, а таксама прафесар хірургічнага цэнтра У.А.Кацько.

Вялікую дапамогу Беларусі па павышэнні ўзроўню медыцынскай дыягностыкі аказаў дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" Федэральнай Зямлі Ніжняя Саксонія (Германія). На чале яго працяглы час працавала жонка канцлера ФРГ Гільтруд Шродэр. Гэта арганізацыя паставіла ў многія бальніцы Беларусі дыягнастычнае абсталяванне, што намнога павысіла ўзровень медыцынскага даследавання. Затраты фонду на аказанне медыцынскай дапамогі нашай краіны складаюць многія дзесяткі мільёнаў долараў ЗША.

Значную дапамогу Беларусі аказалі заходнія краіны па арганізацыі аздараўлення дзяцей з рэгіёнаў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. Па лініі гэтай дапамогі сотні тысяч дзяцей з нашай краіны змаглі паправіць сваё здароўе за межамі Беларусі. Дапамога дэмакратычных краін свету Беларусі на пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы склала ў грашовым пералічэнні каля мільярда амерыканскіх долараў. З гэтага мільярда звыш 400 мільёнаў затраціла Германія. Каля 200 мільёнаў долараў выдаткавалі на гэтыя мэты ЗША. І толькі Расія, якая выхваляецца сваімі багаццямі, аказалася практычна ў баку ад гэтай дапамогі. Яна, наадварот, з дапамогай газу і нафты спрабуе захапіць Беларусь. Тым не менш афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі ад цямна да цямна ўнушаюць беларускаму электарату, што нібыта Расія — найлепшы сябра нашай краіны, гатова падзяліцца з намі апошнім кавалкам хлеба.

Калі рассейваць чарнобыльскія міфы да канца, то трэба звярнуць увагу яшчэ на такі факт. У адной з перадач таго ж тэлеканала АНТ было сказана, што аварыя на Чарнобыльскай АЭС выклікала толькі павелічэнне захворвання на рак шчытападобнай залозы ў дзяцей. Гэта ў многіх адносінах памылковае меркаванне. Справа ў тым, што павышэнне захворваемасці на рак шчытападобнай залозы зарэгістравана ў Беларусі не толькі ў дзяцей, але таксама ў падлеткаў і дарослых. Па дадзеных прафесара Я.П.Дзямідчыка (Цэнтр ракавых захворванняў шчытападобнай залозы), абнародаваных у 2001 годзе на міжнароднай канферэнцыі ў Маскве, па стане на канец 2000 года ў Беларусі праявілася 1500 выпадкаў радыяцыйнага раку ў асоб не старэй за 33 гады, гэта значыць у дзяцей, падлеткаў і дарослых. Маюцца і іншыя медыцынскія эфекты Чарнобыля ў Беларусі, напрыклад, радыяцыйныя лейкозы ў дзяцей, а таксама рэзкае павышэнне частаты агульна-саматычных захворванняў у найбольш пацярпелых груп насельніцтва. Да іх адносяцца ліквідатары, жыхары паселішчаў 30-кіламетровай зоны, эвакуіраваныя ў маі-жніўні 1986 года, а таксама асобы, пераселеныя ў 1990—1998 гадах з тэрыторый з забруджаннем цэзіем-137, роўным або вышэйшым за 15 кюры на квадратны кіламетр.

Па дадзеных "Нацыянальнага даклада Беларусі: 15 год пасля чарнобыльскай катастрофы, наступствы ў Рэспубліцы Беларусь і іх пераадоленне", апублікаваным у 2001 годзе, частата захворвання ліквідатараў на хваробы органаў стрававання ў 6,4 раза перавышала частату сярод дарослага насельніцтва Беларусі. У выпадку захворвання на ішэмічную хваробу сэрца такое перавышэнне склала 9,5 раза. Частата захворванняў сардэчна-сасудзістай і эндакрыннай сістэм у ліквідатараў у 7,4 раза перавышае частату аналагічных захворванняў у непацярпелага дарослага насельніцтва Беларусі.

Значнае адрозненне ў частаце захворвання на розныя агульна-саматычныя хваробы назіраецца таксама і ў выпадку эвакуіраванага і перасяленага насельніцтва Беларусі ў параўнанні з насельніцтвам "чыстых" рэгіёнаў краіны. Маюцца і іншыя доказы шкоднага ўздзеяння чарнобыльскай радыяцыі. Так, спецыялісты Беларусі ўстанавілі значны прырост прыроджаных пашкоджанняў развіцця па такіх пазіцыях, як полідактылія (6 пальцаў на руцэ замест пяці), укарачэнне канечнасцяў (рук і ног) і так званыя мультыфактарныя адхіленні.

Хачу яшчэ раз падкрэсліць: нельга зміруцца з тым, пад якім вуглом падаецца ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі чарнобыльская бяда, шкода ад таго, што грамадскасць уводзіцца ў зман, проста гіганцкая. Хто будзе дапамагаць Беларусі вырашаць яе чарнобыльскія праблемы, калі яны, па сведчанні лукашэнкаўскіх прапагандыстаў, наогул адсутнічаюць?

Самае дзіўнае заключаецца ў тым, што ўлады Беларусі абсалютна правы, калі яны сцвярджаюць, што Беларусь сама можа вырашыць праблемы Чарнобыля. Беларусь сапраўды ў стане іх вырашыць хаця б таму, што на самай справе чарнобыльскі фактар не з'яўляецца тым фактарам, які на 100 працэнтаў вызначае захворваемасць і смяротнасць насельніцтва Беларусі. Аналіз сведчыць, што магчымы ўклад чарнобыльскага фактару ў смяротнасць у перыяд 1986—2056 гадоў складзе не больш як 0,5 працэнта, што прыблізна ў 50 разоў менш, чым уклад у смяротнасць, звязаную са злоўжываннем алкагольнымі напоямі, і ў 20 разоў менш, чым уклад у смяротнасць, выкліканую курэннем. Вось сапраўдныя ворагі насельніцтва Беларусі: гарэлка і курэнне і, вядома ж, дрэннае харчаванне, наогул нізкі ўзровень жыцця. Але пераважная частка насельніцтва Беларусі цвёрда верыць у тое, што нібыта галоўная пагроза здароўю іх і іх блізкім зыходзіць ад Чарнобыля. Інакш і не можа быць, калі яно, гэта насельніцтва, кожны дзень пры ўключэнні тэлевізара бачыць на экранах толькі новікавых, шынкароў, лаўровых, леднікаў, яфімавых і т.п., якія, не задумваючыся ні на хвіліну, плятуць усялякую лухту, што прыходзіць ім у галаву. Менавіта па гэтай прычыне людзі і не вераць ніякім сцвярджэнням улад Беларусі. І прыклад нашай краіны сведчыць аб тым, як, затрачваючы гіганцкія намаганні ў ўнушэнне насельніцтву нейкіх прапагандысцкіх міфаў, можна атрымаць зусім процілеглыя вынікі.

**Міхась МАЛЬКО, навуковец.**

*Мінск.*

**Фота photo.bymedia.net**

СУД!

## Месть

Довольно необычное уголовное дело рассмотрено судом Железнодорожного района Гомеля. Минувшей зимой обокрали квартиру Татьяны Будрик. Не сказать, что кража причинила значительный ущерб — пропали детская игрушка и купленная к обеду жирная норвежская сельдь. Хозяйке не нужно было проявлять способности Шерлока Холмса, чтобы вычислить вора — кража обнаружилась после ухода гостьи, соседки по подъезду. В милицию, естественно, Татьяна из-за такой мелочи обращаться не стала, но затаила на соседку зло и решила отомстить.

Встретив воришку через несколько дней в подъезде, насильно завела в свою квартиру и послала сожителя в магазин. До прихода гонца провела с воровкой профилактическую беседу с помощью выражений, которые по понятным причинам не печатаются. Для убедительности применялись руки. Когда на столе появились бутылки с популярным в народе плодово-ягодным напитком, хозяева усадили вместе с собой и раскаявшуюся грешницу. После выпивки избиение продолжалось. И не только избиение — захмелевшая Татьяна приказала сожителю совершить с соседкой половой акт. Того долго заставлять не пришлось. Сопротивлявшаяся жертва была дополнительно избита, а после завершения соответствующего акта привязана к батарее. "Уйдешь, когда сойдут синяки", — заявила Татьяна.

Продолжившие трапезу, "судья и палач" не заметили, как жертва насилия развязалась и выскочила из квартиры. Так за столом и застали "сладкую парочку" сотрудники Железнодорожного РОВД.

За совершение изнасилования суд приговорил 43-летнего Евгения Картавенко к пяти с половиной годам лишения свободы в исправительной колонии усиленного режима. За подстрекательство и пособничество к совершению довольно циничного преступления 29-летняя мать малолетнего ребенка лишена свободы на шесть лет.

## ...И пес не защитил

Решив загодя отметить праздник, житель Речицы отправился в круглосуточно работающий магазин, когда стрелки на часах только-только начали отсчет очередных суток. В предвкушении ночного застолья купив большую бутылку "Вилии", мужчина направился домой. Не дошел — получив несколько ударов в лицо, потерпевший лишился заветной бутылки и оставшихся на праздник 35 тысяч целковых, перекочевавших в карманы двух ночных злодеев. Одного из них — местного жителя Сергея Кравченко — бедолага узнал.

Пришлось горожанину обращаться в милицию, где о своем горе он поведал стражам порядка. Когда те навестили разбойника по месту жительства, Серега, находившийся в изрядном подпитии, встретил милиционеров довольно неприветливо. Самые приличные его слова были: "Убирайтесь, менты!.." Дальше шли непечатные выражения.

В ответ на приглашение проехать в райотдел для разбирательства выпивоха натравил на сотрудников милиции своего пса. К счастью, никто не пострадал от укусов, но милиционеры отказались от своего предложения мирно проехать в райотдел. Пришлось применить силу и доставить Кравченко к месту разбирательства в стальных браслетах.

Своего подельника разбойник так и не выдал.

Суд Речицкого района приговорил 35-летнего рабочего сельхозтехникума к шести с половиной годам лишения свободы с содержанием в исправительной колонии усиленного режима.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

АКЦИИ

## Встречи по вторникам

Каждый вторник в 20.00 члены Свободного профсоюза белорусского (СПБ) собираются на пл.Строителей г.Новополоцка напротив здания мэрии. Профсоюзные активисты предлагают горожанам пообщаться и поделиться своими проблемами.

Акция пассивного сопротивления — так называют члены СПБ такие встречи. "Мы не вывешиваем плакаты и не выдвигаем никаких требований. Наша цель — научить людей общаться, открыто высказывать свое мнение и, главное, перестать бояться власти. Это своеобразный вызов власти, консолидирующий людей", — рассказывает председатель Новополоцко-Полоцкой региональной организации СПБ Владимир Антанович.

С каждой новой встречей СПБ удается собрать на городской площади все большее количество народа. Темы обсуждения самые разные: футбол, цены в магазинах, контракты и т.д. К профсоюзным активистам часто присоединяются члены других общественных объединений, приезжают гости из соседнего Полоцка. Члены СПБ надеются, что их инициативу поддержат и в других городах Беларуси. Пока в планах СПБ пригласить на одну из встреч исполнителя бардовских песен, чтобы было веселее.

**www.praca-by.info**

## Хватит сидеть в болоте

Дорогая редакция!

Убедительно прошу передать мою просьбу мужественным людям — Валерию Фролову, Сергею Скребцу, Владимиру Парфеновичу, Марине Богданович и их товарищам: мы, простые люди, всей душой их поддерживали, когда они голодали, требуя поправок в Закон о выборах. Поддерживаем и сейчас, надеясь, что они не отойдут от новых больших дел во имя Беларуси.

Такие, как эти мужественные люди, вселяют в души белорусов стремление к лучшей жизни в демократической, свободной стране. И сегодня тени прошлого не покинули нашу Беларусь окончательно. Бывшие выходцы ВПШ не управляют, а командуют страной и народом, навязывая каждому, как жить, что думать и по какой стороне улицы ходить.

Вот это и неприемлемо для большинства наших граждан, которым живется все тяжелее и тяжелее. Не дай Бог, если мы окажемся в сегодняшней западне еще и на третий президентский срок нынешнего правителя. Поддержим же, дорогие граждане Беларуси, генерала Фролова и всех, кто рядом с ним, в их сопротивлении абсурду, когда о свободном волеизъявлении, справедливых выборах можно только мечтать. Если будем трусливо помалкивать — останемся сидеть в болоте.

**С уважением —**

**постоянный читатель и сторонник "Народной воли" Антон САВЕНКОВ, житель Гомеля.**

ЛИКБЕЗ

# Идеология

**Анатолий ЛЕВКОВИЧ, кандидат философских наук**

*(Продолжение. Начало в №№113, 114.)*

### Богатство общечеловеческой культуры раскрывается в многообразных образах национальных культур

Исторически идеология национализма формировалась в процессе образования национальных государств, распада империй и отделения колоний от метрополий.

Как известно, человечество едино по своим корням. Однако в процессе своего исторического развития оно "разветвляется" на множество разнообразных локальных и национальных культур. Каждая из них, разворачиваясь в специфических природных, социальных, технологических и т.д. условиях, обретает свою уникальность. Культура — это "социальный ген", который запечатлевает черты вечности, самобытности и неповторимости народа. Все то, чем один народ интересен другому. Богатство общечеловеческой культуры раскрывается в многообразных образах национальных культур.

### Человек по-настоящему может осознать себя в качестве представителя человечества, когда он осознает себя как представитель своего народа

Еще в XVI веке наш знаменитый просветитель Франциск Скорина говорил о том, что людей объединяют не столько религиозные, сколько общечеловеческие и национально-культурные ценности. Он первым пришел к выводу, что утверждение общечеловеческих ценностей связано с пробуждением национального сознания и, наоборот, что человек по-настоящему может осознать себя в качестве представителя человечества, когда он осознает себя как представитель своего народа. У белорусского книгопечатника общечеловеческие и национальные ценности гармонично соединяются.

### Франциск Скорина прозорливо замечает

В отдельные исторические периоды, прозорливо замечает Франциск Скорина, роль национально-культурных ценностей может возвышаться до уровня общечеловеческих и даже приобретать доминирующее значение. Это может быть связано с социальными, техногенными или природными катастрофами, представляющими собой угрозу исчезновения нации. Однако, чтобы не вылиться в национал-экстремизм, национальные ценности должны подкрепляться общечеловеческими. Средством избежания крайностей национал-экстремизма и интернационализма (космополитизма), средством национальной конкретизации общечеловеческих ценностей являются традиция и преемственность культурного наследия.

### Ошибался Тойнби, писавший о "кончине национального государства"

Современные национальные государства образовались в Европе в XVIII—XIX веках. Однако процесс появления новых национальных государств продолжается и сегодня. Сильно ошибался Тойнби, писавший о "кончине национального государства". Уже во второй половине XX столетия, после крушения коммунистической системы, на арене истории появляется ряд новых национальных государств. Например, в Конференции по безопасности и сотрудничеству в Европе на момент ее основания (1975 г.) участвовало 35 государств. В 1995 их было уже 53. С крушением Советского Союза и Югославии число независимых государств в Европе увеличилось на треть.

### Процесс национального строительства спасает народы от тотальной экспансии более сильных культур

Несмотря на процессы глобализации и стандартизации, на весь универсализм индустриальной и постиндустриальной революции, именно процесс национального строительства, начавшийся в Европе в XVIII веке, до настоящего времени спасает народы от тотальной экспансии более сильных культур и способствует динамичному развитию единой общечеловеческой культуры.

Равноправное вхождение в цивилизованное сообщество народов возможно только на основе всемерного развития национальной культуры.

Великий русский мыслитель Николай Бердяев писал: "Есть только один исторический путь к достижению высшей всечеловечности, к единству человечества — путь национального роста и развития, национального творчества".

### Нация — единство трех компонентов: волевого, культурного и политического

Идеология национализма основывается на национальной идее и включает в себя определение "нации". Существует много определений и подходов к пониманию нации.

Нация, согласно концепции британского социолога Э.Геллнера, является единством трех компонентов: волевого, культурного и политического. Воля активизирует творческую деятельность национальных элит (писатели, художники, историки и др.) для формирования национального сознания. Она превращает аморфное этническое сообщество в политически активную нацию. Нации формируют собственные культуры, между которыми происходит постоянная конкурентная борьба. Защита национальной культуры и национальных интересов невозможна без политической деятельности по созданию, укреплению и развитию независимого национального государства.

### Существуют две модели становления европейских наций — французская ("Гражданский национализм") и немецкая ("Этнический национализм")

Французскому государству пришлось приложить большие усилия, чтобы превратить этнически разрозненную Францию в нацию, а крестьян в граждан. Французская модель способствует развитию "гражданского национализма", который целиком и полностью совместим с демократией. "Гражданский национализм" признает право человека на выбор языка и культуры, национальную принадлежность считает делом личного свободного выбора. Признавая свободное развитие других наций, он дает возможность любому народу на построение национального государства, учит терпимости и солидарности.

Немецкая модель, как правило, приводит к "этнокультурному национализму". Последний, при некоторых обстоятельствах, может эволюционировать в этнократию, крайней формой которой является нацизм. Проповедуя имперскую идеологию, устанавливая господство над другими народами, имперская нация прежде всего лишает свободы себя и делает жертвой собственных амбиций свой народ.

### Национальная идея не может быть приватизирована узким кругом лиц или партий

Национальная идея неизбежно ведет к идеологии национализма — к политической программе действий для реализации этой идеи и ее целей. Национальная идея — это историческая сила, которая создает мировоззренческий и политический фундамент для существования нации и национального государства. Известный политолог Владимир Ровдо отмечает: "Народ или этнокультурное образование (даже исторически ослабленный, как белорусы) для реализации своего потенциала должен превратиться в нацию, стать на уровень понимания необходимости использования политических методов для утверждения своего суверенитета". Национальная идея не может быть приватизирована узким кругом лиц или партий. Национальная идея — это идея всего общества, если оно стремится к построению своего национального государства.

### Национальная идея может и должна быть монополизирована государством

В процессе национального строительства большая роль принадлежит национальной бюрократии и политическим национальным элитам. Но все же решающая роль отводится государству. Национальная идея может и должна быть монополизирована государством. Тогда дело расцвета нации, национальной экономики и культуры продвигается успешно и бесповоротно.

### "Государственная и национальная идеология не суть одно и то же"

Как верно отмечает политолог Виктор Чернов: "Не каждая государственная идеология является национальной, не каждая национальная идеология претендует на роль государственной. ...Государственная и национальная идеология не суть одно и то же". Одно дело — так называемый "этнический национализм"

Народная Воля

1 ЛІПЕНЯ 2004 г.

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Саддама передадут иракцам

*Бывшего иракского лидера Саддама Хусейна и 11 видных деятелей партии БААС де-юре передадут в распоряжение иракского правительства, заявил премьер-министр Ирака Айяд Алави. Однако Саддам Хусейн будет содержаться под американской стражей до тех пор, пока иракские пенитенциарные службы не будут готовы взять его под свой контроль.*

По словам Алави, бывший иракский лидер может предстать перед судом уже в ближайшие дни, однако судебный процесс начнется не ранее чем через несколько месяцев. Среди тех, кто также будет передан в руки иракского правосудия, — бывший заместитель премьер-министра страны Тарик Азиз, бывший вице-президент Таха Ясин Рамадан, Али Хасан Маджид, более известный по прозвищу Химический Али и два сводных брата Саддама Хусейна.

### В чем обвиняют Саддама

В ходе судебного процесса против Саддама Хусейна могут быть выдвинуты обвинения в связи со следующими эпизодами иракской истории.

* В 1980 году, после пограничных столкновений между Ираком и Ираном, Багдад начал войну против Тегерана, в ходе которой погибло около миллиона человек. Тегеран утверждает, что 20 тысяч иранцев были убиты иракским химическим оружием. Кое-кто в Иране считает, что место на скамье подсудимых рядом с Саддамом должны занять США, так как во время ирано-иракской войны Вашингтон оказывал поддержку Багдаду.

* В 1988 году на севере Ирака началось восстание курдов, которое Саддам Хусейн жестоко подавил. В ходе боевых действий иракские войска использовали химическое оружие. Еще одно восстание курдов, вспыхнувшее в 1991 году, также было жестоко подавлено.

* В августе 1990 года Ирак напал на Кувейт. Иракских солдат обвиняют в разграблении Кувейта, а также в том, что они пытали и казнили кувейтцев. Кувейт утверждает, что сотни его граждан были угнаны в Ирак. Иракские солдаты также подожгли более 700 кувейтских нефтяных вышек и открыли нефтепроводы, через которые нефть выливалась в Персидский залив. После войны Саддам Хусейн подавил восстание шиитов на юге Ирака.

* Израиль намерен предъявить обвинения Саддаму Хусейну в связи с обстрелом Израиля ракетами "Скад" в ходе войны в Персидском заливе. На территории Израиля упали 39 иракских ракет, двое израильтян были убиты. Министр обороны Израиля Шауль Мофаз заявил, что Саддаму следует предъявить обвинение в финансировании палестинских бомбистов-смертников.

* Бывшему иракскому лидеру могут быть также предъявлены обвинения в пытках и массовых убийствах граждан Ирака. На территории страны было найдено около 270 братских могил, в которых, как полагают, находятся останки десятков тысяч человек.

* Возможно, Саддаму Хусейну придется ответить и за то, что в 1990-е годы Багдад препятствовал работе инспекторов ООН по оружию массового поражения. Саддама также могут предать суду за его предполагаемую роль в организации повстанческого движения против оккупационных войск в Ираке.

## Лондонское метро полностью встало

Лондонское метро полностью прекратило работу — профсоюз работников железнодорожного и морского транспорта объявил о проведении 24-часовой забастовки. Тысячи лондонцев были вынуждены раньше уйти с работы, чтобы успеть вернуться домой.

Профсоюз протестует против условий труда и размеров оплаты работников лондонского метрополитена. Однако руководство лондонского метро назвало действия устроителей забастовки "абсолютно неприемлемыми".

## Лидеры ЕС выбрали нового главу Еврокомиссии



На внеочередном заседании в Брюсселе лидеры Евросоюза утвердили премьер-министра Португалии Жозе Мануэля Дурана Барросу на посту председателя Еврокомиссии. Новый глава Еврокомиссии вступит в должность 1 ноября 2004 года и пробудет на этом посту до 31 октября 2009 года. Его кандидатура была предложена рядом лидеров стран — участниц ЕС, включая Берти Ахерна, премьера председательствующей в данный момент в ЕС Ирландии. Барросу сменит на посту главы исполнительного органа ЕС Романо Проди.

21 или 22 июля в Европарламенте состоится окончательное голосование по кандидатуре Барросу, когда последний представит свою программу. Тем временем Барросу уже заверил журналистов, что будет следовать политике Проди, направленной на укрепление роли ЕС в мировом сообществе.

Кроме того, Барросу заявил, что уже поставил в известность о возможном уходе с занимаемого поста президента Португалии Жозе Сампарио, Кабинет министров и лидеров правящей Социал-демократической партии.

Юрист по образованию, 48-летний Барросу ранее занимал пост министра иностранных дел. Он возглавил коалиционное проамериканское правительство Португалии в 2002 году.

У СУСЕДЗЯЎ

# 3. І рыцарскі турнір, і пячора «Рай»,

## або Асаблівасці польскага агратурызму

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 117, 118.)*

Дзе больш за ўсё ў Еўропе замкаў? Калі вы, як і многія, думаеце, што ў Францыі, дык памыляецеся. Нідзе іх няма столькі, колькі ў Польшчы. Яны тут у многіх месцах, але найбольш у Ніжняй Сілезіі. Гэты рэгіён прыцягвае шматлікіх турыстаў сваімі архітэктурнымі помнікамі сусветнага значэння. Да таго ж яны пабудаваны ў вельмі маляўнічых мясцінах. Тут цягнуцца тры невысокія горныя грады, ля іх — нацыянальныя паркі і заказнікі, дарожкі для веласіпеднага і коннага турызму.

Так што ёсць магчымасць не толькі пазнаёміцца з архітэктурай замкаў, папоўніць свае гістарычныя веды, але і пакатацца на веласіпедзе ці кані. У суседніх мясцінах таксама нямала займальнага. Так, у замку Хоўнік дэманструюць сваё майстэрства арбалетчыкі, у замку ў Балкове праводзяцца рыцарскія турніры, у мястэчку Златорые можна пабачыць працэс прамыўкі золата, у Яжове-Судзецкім ёсць навучальны цэнтр, у якім можна атрымаць урокі альпінізму, планернага спорту і дэльтапланерызму. Ёсць школа праваднікоў па гарах, заняткі вядуць вопытныя інструктары горна-выратавальнай службы. Так што выбірай, што па душы.

*Перад пачаткам рыцарскага турніру.*

Знайсці жыллё ў гэтым рэгіёне на час адпачынку не праблема. Турыстаў прымаюць сельскія гаспадаркі, многія жыхары. Яны прапаноўваюць пакоі ці асобныя домікі, харчаванне, экскурсійныя праграмы. Многіх прыцягвае раён Твардогуры, які знаходзіцца ў пойме ракі Барычы. Тут самы вялікі ў Еўропе комплекс сажалак. Сярод сасновых бароў нямала невялікіх чыстых азёр. Гэта выдатныя мясціны для рыбаловаў. І не толькі для іх, але і для паляўнічых і аматараў верхавой язды. Во колькі ўсяго цікавага!

Цяпер пазнаёмімся з другім рэгіёнам — ваяводствам Куяўска-Паморскім. У ім знакаміты горад Торунь — радзіма Мікалая Каперніка, адзін з самых каштоўных архітэктурных ансамбляў, занесеных у спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО.

Гісторыкі нагадаюць, што тут вякамі вялі сутычкі польскія і тэўтонскія дружыны, таму навокал нямала абарончых замкаў. Адзін з самых унушальных стаіць на высокім адхоне ля ракі Дрвенцы ў Голубе-Дабрыне. У ім месціцца музей ваеннага рыштунку, невялікі гатэль. Летам у замку ладзяцца цікавыя рыцарскія турніры. На іх прыязджаюць дружыны з шэрагу краін Еўропы. Кажуць, што гэта выдатныя відовішчы, якія пераносяць гледачоў у атмасферу сярэднявечча.

Другое прыцягальнае месца — Біскупін з яго фальклорнымі святамі. Патрапіўшы на іх, можна ўбачыць незвычайныя танцы, дэманстрацыю вопраткі сярэднявечча, пазнаёміцца са старадаўнімі спосабамі выплаўкі жалеза і вырабу манет.

Рэгіён ляжыць у даліне ракі Вісла. У ім прыгожы Тухольскі бор, шмат азёр і турысцкіх маршрутаў — байдарачных, веласіпедных... У апошнія гады ўсё больш тутэйшых гаспадароў пераабсталёўваюць сваё жыллё для прыёму агратурыстаў. Вось і сям'я Марцынякоў адвяла чатыры пакоі для гасцей у сваім доме, які стаіць між двух азёр. Гасцям адведзена таксама вялікая зала з камінам і тэлевізарам. Гаспадары маюць уласную прыстань на возеры, на якой стаяць яхта, дзве байдаркі і дзве парусныя лодкі.

Несумненна, самы прыцягальны турыстычны рэгіён — раён Кракава. Сам горад — культурна-гістарычны помнік сусветнага ўзроўню. А ў яго ваколіцах — шмат старых замкаў, палацаў, манастыроў, знакамітых сядзіб. Тут жа вядомы Айцоўскі нацыянальны парк, а ў ім — шматлікія пячоры з унікальнымі падземнымі формамі. У паўднёвай частцы гэтага — Малапольскага ваяводства шмат турыстычных маршрутаў. Для гасцей пабудаваны сямейныя пансіянаты, гатэлі, агратурыстычныя дамы. На хуткіх рэках Дунаец, Бялка і Попрад турысты з задавальненнем катаюцца на байдарках. Многія любяць спуск па рацэ на плытах.

Побач з ракой і лесам размясцілася гаспадарка Ласкова. У пяці пакоях могуць пасяліцца дваццаць чалавек. Сняданкі і абеды гаспадыня рыхтуе, зыходзячы з пажаданняў гасцей. У вялікім садзе ёсць сажалка, пляцоўка для гульні дзяцей, два тэнісныя корты, валейбольная пляцоўка. Гаспадары ладзяць для турыстаў экскурсіі, авіяпалёты над наваколлем, вячэры на свежым паветры. Адсюль недалёка і да Кракава.

У Свентакшыцкім ваяводстве выдзяляецца Хенцынскі ландшафтны парк. А над ім узвышаюцца руіны замка XIII стагоддзя. Паблізу пячора "Рай" з неверагоднымі формамі. Па суседстве вадзяны млын і месца Токарне, дзе бываюць цікавыя святы і прадстаўленні, у прыватнасці, паказ старых метадаў выплаўкі свінцу. Для паслуг турыстаў ёсць і вузкакалейка.

Крыху далей на поўнач — вёска Хмельнік, першая ў Польшчы агратурыстычная вёска, выбраная і аснашчаная Еўрапейскім Саюзам. Тут болей 10 кватэр для агратурыстаў. У тутэйшай рачулцы і сажалках шмат рыбы, ёсць мясціны для лоўлі ракаў. Гэта выдатнае месца для рыбнай лоўлі, адпачынку з дзецьмі і для тых, хто любіць паесці свежай рыбы.



*З самага ранку — на веласіпед.*

У далечыні ад шашы ў ціхім лясным месцы стаіць дом сям'і Гайдукоў. У ім для гасцей ёсць тры пакоі на сем месцаў. Харчаванне рыхтуе гаспадыня. Яно багатае гароднінай. Ёсць коні. Так што можна паездзіць верхам, павучыцца даглядаць іх. Для дзіцячых забаў пабудаваны шалаш. Гаспадары з задавальненнем прымуць вашу дапамогу на сенакосе ці іншых работах.

Так што адпачынак запомніцца не толькі замкамі.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# «Мне сняцца сны аб Беларусі...»

Ён быў Прарокам, наш вялікі Купала. Той, хто з незвычайнай мастацкай сілай акрэсліў шлях свайго народа да шчасця "людзьмі звацца" — шлях незалежнай, вольнай краіны Беларусь. Аднаго не здолеў спрарочыць — што імя яго і кожнае слова стануць святыняй у сэрцах мільёнаў беларусаў, адданых Бацькаўшчыне, а прадбачанне ўласнага творчага лёсу *("Я ціха йграю, што ж ціхіх прымеце? Ат! ведама, з вёскі — Янка Купала")* і блізка не спраўдзілася...

Кожны дзень народзінаў Песняра (а ён ужо блізка, 7 ліпеня) — наша свята. Кожная гадавіна яго трагічнай гібелі 28 чэрвеня 1942 года ў Маскве — дзень жалобы і несціханага болю. Так было і напярэдадні апошняй чорнай даты, калі, як зазвычай па выхадных днях, у сталічным парку імя Янкі Купалы ля велічнага помніка паэту, пад яго неўміручым поклічам "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!" прайшла сустрэча з ягонай паэзіяй. А 28-га ў касцёле Святога Роха адбылася імша ў памяць славутага сына зямлі беларускай. На Вайсковыя могілкі да яго магілы зранку да вечара, гуртам і паасобку ішлі людзі з кветкамі: пісьменнікі, студэнты, звычайныя гараджане — шчырыя прыхільнікі нацыянальнай культуры.



*У дзень памяці паэта ля яго магілы.*

Проста, сардэчна і нязмушана духоўныя Купалавы нашчадкі гаварылі аб Уладары беларускага слова, што перажыве вякі. Акрыленае і магутнае, гэтае слова вырвалася нарэшце з-за кратаў, дзе ў савецкія часы "тутэйшыя" — ідэалагічныя вартаўнікі хавалі значную і, можа быць, лепшую частку яго творчай спадчыны ад народа, дзеля якога пісаў і жыў на гэтай зямлі беларускі геній.

...Раптоўная смерць Купалы ў ліхую часіну гітлераўскага нашэсця тоіць у сабе яшчэ шмат зласнена-неразгаданага. Магчыма, дачуўшыся нейкім чынам аб страшнай бядзе, маці паэта Бянігна Іванаўна тут, у акупаваным Мінску, не вытрымала ўдару і літаральна праз дзень пакінула гэты свет. Сталася так, што іх — маці і сына — хавалі ў адзін дзень, толькі ў розных, далёкіх адна ад адной мясцінах. На гэтых жа самых Вайсковых могілках знайшла свой спачын гэтая простая жанчына, пра якую яе вялікі сын сказаў з любасцю і ўдзячнасцю: *"Навучыўся я слоў беларускіх ад маці"*. Праз пэўны час, калі прах народнага паэта быў перавезены на радзіму, ён сам далучыўся да любай матулі на гэтых жа кладах.

І да помніка Бянігны Іванаўны прыйшлі на паклон людзі з палявымі васількамі і рамонкамі. Светлагаловы хлапчук Сержык Чылікін-Садэльскі запаліў свечкі і прачытаў для той, *"што маленькага Янку люляла"*, кранальны верш аб несмяротнасці творцы, хто выдыхнуў з глыбіні душы: *"Мне сняцца сны аб Беларусі..."*

Можа, прыйдзе час — і гэты хлопчык таксама стане паэтам, прыме ад славутага папярэдніка светлы і мужны дар служыць Бацькаўшчыне?

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

## У Польшчы беларускія святы адзначаць пачалі ўжо ўчора

*Учора ў Польшчы пачалося правядзенне святочных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню Незалежнасці Беларусі і 60-й гадавіне вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

У прыватнасці, як паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі, адбыліся ўрачыстая цырымонія ўскладання вянкоў на мемарыяльных могілках савецкіх салдат, якія загінулі ў 1944—1945 гадах, сустрэча з прадстаўнікамі польскіх ветэранскіх арганізацый, удзельнікамі баёў за вызваленне Беларусі.

Сёння ў генеральным консульстве Беларусі ў Беластоку пройдуць афіцыйныя прыёмы. 2 і 3 ліпеня генеральныя консульствы Беларусі ў Беластоку, Гданьску і Бяла-Падлясцы арганізуюць цырымоніі ўскладання вянкоў на могілках савецкіх воінаў, а 4 ліпеня ў Гдыні будзе ўсталяваны і асвечаны праваслаўны крыж савецкім воінам, якія загінулі падчас вызвалення Гдыні.

Акрамя таго, на працягу ліпеня больш як 200 польскім ветэранам, удзельнікам вызвалення Беларусі, плануецца ўручыць юбілейныя медалі "60 гадоў вызвалення Беларусі". Дэлегацыі польскіх ветэранаў таксама прыбудуць у Беларусь для ўдзелу ва ўрачыстасцях з нагоды гадавіны вызвалення краіны.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

ВАНДАЛІЗМ

# На звалку вывозілі... нашу памяць

Прайшло два дзесяткі гадоў, як тагачасныя гарадскія ўлады Мінска і ЦК КПБ чыгуннай "бабай" разбурылі будынак першага гарадскога тэатра. Гэты тэатр дарагі нашай культуры сваёй асаблівай гісторыяй. І ў першую чаргу тым, што на ягонай сцэне ў 1852 годзе адбылася прэм'ера першай беларускай аперэты "Салянка", аўтары якой не хто іншыя, як класікі літаратуры і музыкі — В.Дунін-Марцінкевіч, С.Манюшка ды К.Крыжаноўскі. З гэтым будынкам наогул звязана шырокая творчая дзейнасць і самога В.Дуніна-Марцінкевіча, яго дачкі Камілы, іх сям'і наогул, згаданых ужо С.Манюшкі, К.Крыжаноўскага, а таксама Д.Кандратовіча, В.Ваньковіча і многіх іншых знаных стваральнікаў беларускай нацыянальнай культуры.



У другой палове XIX ст. тут размясціўся банк, а ў другой палове XX працавала Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі. Будынак быў неверагодна запушчаны, доўгія гады не ведаў капітальнага рамонту, што і прывяло да аварыйнага стану. Вяліся размовы пра яго рэстаўрацыю, дарэчы, як і ўсяго гістарычнага цэнтра Мінска. Рэстаўрацыя Верхняга горада неаднаразова абмяркоўвалася шырокай грамадскасцю. Калі ж у 1984 годзе адбыўся адвольны абвал часткі муроў будынка, гэта і прымусіла прыхільнікаў нацыянальнай культуры прымаць заходы да ўратавання гістарычнага аб'екта ад поўнага знішчэння.

Многія дзеячы навукі і мастацтва звярталіся ў дзяржаўныя і партыйныя органы з патрабаваннем захаваць будынак былога тэатра. Прабіліся нават да "самога" Івана Антонавіча — тады загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ. Сярод "хадакоў", якіх мусіў прыняць высокі партыйны бос, былі Яўген Кулік, Міхась Чарняўскі, Міхась Ткачоў, Зянон Пазьняк, Аляксей Марачкін і іншыя. Антановіч нікога не слухаў. Праўда, важны начальнік урэшце рэшт усё ж выціснуў з сябе: "Калі дакажаце, што будынак сапраўды варты таго, каб яго захаваць, я першы падстаўлю плячо пад гэты дом..."

Ды словы Івана Іванавіча засталіся ўсяго толькі словамі... 13 чэрвеня 1984 года пачалі бурыць будынак тэатра. Пакінуўшы ўсе справы, мы з Аляксеем Марачкіным рынуліся туды і ўбачылі, як, нягледзячы на позні час, аўтакран "ударнымі тэмпамі", з дапамогай чыгуннай "бабы" пераўтвараў знакаміты дом у друз і пыл. Самазвалы вывозілі на сметнік цэглу — і разам з ёю нашу культуру, наш гонар, нашу памяць...

Мы пратэставалі, штосьці крычалі. Пачалі збірацца людзі... Міліцыянты адцяснілі нас у бок. Пазней мы даведаліся, што з другога боку фасада дома-пакутніка ў гэты ж час пратэставала група навучэнцаў Мінскага мастацкага вучылішча. Іх потым "разбіралі" ў навучальнай установе як злосных парушальнікаў.

Наступным днём, як ні дзіўна, мне ўдалося дазваніцца да высокага начальства ў ЦК КПСС — вядомага партыйнага дзеяча ў Маскве Зімяніна. На другім канцы дроту пачуў: "А как к этому относятся Александр Трофимович (Кузьмін, тагачасны сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. — **М.К.**) и Иван Иванович?". — "Дык вось жа, кажу, бураць дом, выходзіць, адпаведна і ставяцца".

Я атрымаў ад Зімяніна абяцанне разабрацца... Калі ж расказаў пра свой званок у Маскву Уладзіміру Караткевічу, той вельмі абурыўся і сказаў, што чалавека па імені Зімянін для яго не існуе. І наогул нічога добрага з маёй "чалабітнай" не будзе... Я зразумеў: усё было пад кантролем Масквы, а спасылка на мясцовых "князькоў" — толькі для адводу вачэй...

Так яно і аказалася. На нашых вачах быў знішчаны будынак, які ўвасабляў сабой гісторыю беларускай літаратуры, тэатра, музыкі, культуры ў цэлым.

Між іншым, бульдозеры-разбуральнікі, экскаватары, самазвалы з іх кіроўцамі працавалі, канечне, не задарма. На рэстаўрацыю ж сродкаў не было! Але культура вымяраецца не толькі грашовымі асігнаваннямі, а перад усім — духоўным станам народа. Сёння на гэтым "полі" мала што прыгожае расце. Але я ўпэўнены: рана ці позна аднаўленне зрубленых каштоўнасцей стане рэальнасцю, інакш можна страціць душу і памяць нацыі.

**Мікола КУПАВА,**
**мастак.**

# национализма

("немецкая модель"), который стремится к образованию независимого государства на основе одного титульного этноса. И совсем иное дело — "гражданский национализм" ("французская модель"), который рассматривает нацию как всех граждан одного государства. "Французская модель" характерна для белорусского государства, которое понимается как общий дом для всех этносов и граждан — белорусов, поляков, русских, татар, евреев и представителей других народов, которые признают Беларусь своей Родиной.

### "Если ты выстрелишь в прошлое из пистолета, будущее выстрелит в тебя из пушки"

Детство имеет решающее значение как в жизни отдельного человека, так и в истории народа. Оно если не во всем, то во многом предопределяет будущее. Любая нация не может быть жизнеустойчивой без подлинного осмысления своего исторического прошлого. "Если ты выстрелишь в прошлое из пистолета, будущее выстрелит в тебя из пушки". Невозможно вообразить белорусскую национальную идеологию без обращения к истории народа. Идеология белорусского национализма уходит своими корнями в историю древнего Полоцка и первых христианских просветителей Евфросиньи Полоцкой и Кириллы Туровского, Климентия Смалятича и Авраамия Смоленского. Становлению белорусской идеи способствовали философско-гуманистические идеи Франциска Скорины, Сымона Будного и других белорусских философов.

"Современный белорусский национализм есть, — как верно пишет Виктор Чернов, — продукт литвинского духа. Белорусам стоит гордиться не только белорусским государственным языком Великого княжества Литовского. Редкий народ в мире может похвалиться тем, что его мыслители одними из первых в эпоху феодального абсолютизма выдвинули идеи гуманизма, индивидуальной свободы, гражданского общества и гражданского патриотизма. Тем, что на его земле и его предками создан уникальный для того времени строй конституционной (пусть шляхетски ограниченной) демократии, позволившей мирно сосуществовать и сотрудничать разным народам и конфессиям. И этот строй значительно ближе к ценностям и нормам современной демократии, нежели общественные порядки многих других государств".

### Наш национальный герой Кастусь Калиновский

На путь практического воплощения белорусской национальной идеи первым стал наш национальный герой Кастусь Калиновский. Провозглашенное им требование о необходимости придания Беларуси и Литве статуса самостоятельного государства, о чем свидетельствуют документы восстания, дает право считать Калиновского первым основателем белорусской национальной идеи. Впервые белорусская национальная идея во время восстания под руководством Кастуся Калиновского (1863—1864 гг.) обрела практическую политическую силу.

### Белорусская Народная Республика — важнейшая веха воплощения в жизнь белорусской национальной идеологии

На рубеже XIX-XX вв. творчество Франтишка Богушевича, Игната Абдираловича, Янки Купалы, Якуба Коласа, Алоизы Пашкевич, Максима Богдановича, Вацлава Ластовского и многих других преданных сынов белорусского народа явилось дальнейшим развитием идей Кастуся Калиновского. Результатом их работы стало создание белорусской национальной идеологии.

Белорусская Народная Республика — это первая реальная попытка построения белорусской государственности, важнейшая веха воплощения в жизнь белорусской национальной идеологии.

### Нынешняя власть не хочет опираться на исторический опыт народа

В истории народа также необходимо искать примеры для построения белорусского национального государства. Однако нынешняя власть не хочет опираться на исторический опыт народа. Для нынешней власти, "опыт ВКЛ не является источником формирования идеологии белорусской государственности, потому что он "литовский". Опыт БНР также не годится, потому что он "оккупантский", — иронизирует В.Чернов.

### "Гражданский национализм" необходим для запуска механизма демократизации

На основе белорусской национальной идеологии должна формироваться белорусская государственность. "Гражданский национализм" необходим для запуска механизма демократизации, а демократия необходима для расцвета белорусской нации, для развития ее культуры и экономики.

### Лучшего не придумано. Давайте жить в национальном государстве

Еще в XVI веке Макиавелли предложил европейцам жить в национальных государствах. Лучшего не придумано. Многие этому научились. Европа выполнила его завет. Европейцы живут в национальных государствах, и это не разъединяет, а, наоборот, объединяет Европу. Любое современное государство — есть государство национальное. Вот и давайте жить в национальном государстве, с уважением относиться к национальным ценностям — истории, культуре, языку. И при этом необязательно кричать о какой-то государственной идеологии. Ибо и без всякой государственной идеологии уважение к национальной истории и национальным ценностям более чем естественно для нормального руководства любого государства и любой цивилизованной страны.

### "Рост национальной идентичности позволит белорусской нации сохраниться и развиться в условиях глобальных взаимосвязей разных народов"

Как верно отмечают Анатолий Зеленков, Василий Стражев и другие, "глобализация в сфере культуры требует укрепления традиционных национальных ценностей, принципов и идеалов. Решающее значение приобретает национальная идентичность как фундаментальная категория современности, которая выполняет чрезвычайно существенные функции развития культуры в условиях глобализации... Рост национальной идентичности позволит белорусской нации сохраниться и развиться в условиях глобальных взаимосвязей разных народов".

